*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




**Газета выходзіць з сакавіка 1990 года** **№ 28 (567)** **24 ЛІПЕНЯ 2002 г.**

# Знакавая падзея

9-10 ліпеня ў сталічным Доме літаратара адбылася ўрачыстая падзея, да якой грамадскасць рыхтавалася амаль год. Размова ідзе пра Міжнародны сімпозіюм пад эгідай ЮНЕСКО "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі".

Пад заклік гукаў сурмы ўдзельнікі заходзілі ў залу. Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Вольга Іпатава адкрыла форум. Затым выступіў генеральны дырэктар ЮНЕСКА Каіціра Мацуура. У сваёй прамове генеральны дырэктар падкрэсліў імкненне ЮНЕСКА захоўваць і садзейнічаць развіццю ўсіх сучасных моў, малых і вялікіх. Пры гэтым ён згадаў асноўныя дакументы і ініцыятывы ЮНЕСКА: Дэкларацыя аб культуры, заснаванне сусветнага Дня роднай мовы –21 лютага. Ад дзяржаўных структур Беларусі меў слова старшыня Савета Рэспублікі Нацыянальнага Сходу А.П.Вайтовіч.

Трэба адзначыць, што ў працы сімпозіюму прымалі ўдзел шматлікія замежныя госці: прадстаўнікі навуковых колаў Францыі, Германіі, Украіны, пасланцы дзяржаўных структур краін Балтыі, Малдовы, Узбекістана, а таксама кіраўнікі ПЭН-цэнтраў з Нарвегіі, Швецыі, Расіі, Эстоніі і інш.

Праца сімпозіюму была арганізавана наступным чынам. У першы дзень да абедзеннага перапынку адбылося адкрыццё і пленарнае пасяджэнне, а затым удзельнікі разышліся па секцыях. Іх было дзве: "Нацыянальныя культуры ў дыялогу цывілізацый" і "Роля мовы ў развіцці культуры, адукацыі і захаванні ідэнтычнасці народаў". Адначасова ў памяшканні Беларускага таварыства дружбы праходзіў круглы стол "Вытокі фізічнага і маральнага тэрарызму ў эпоху глабалізацыі". Асэнсаванне гэтых няпростых праблем сучаснасці вялося таксама ў дзвюх секцыях: "Што могуць супрацьпаставіць тэрарызму навука, рэлігія, літаратура, мастацтва, сродкі масавай інфармацыі?" і "Міжкультурныя камунікацыя як шлях да паразумення паміж дзяржавамі, народамі, канфесіямі".

Сябры Таварыства беларускай мовы,бралі актыўны ўдзел у працы сімпозіюму. Старшыня Алег Трусаў выступіў на пленарным пасяджэнні з дакладам "Заканадаўчы аспект развіцця беларускай мовы". Першы намеснік старшыні ТБМ Людміла Дзіцэвіч, а таксама два намеснікі Сяргей Кручкоў і Алена Анісім зрабілі паведамленні з круглых сталоў, за якія былі адказнымі. Людміла Дзіцэвіч –"Мова, адукацыя, час", Сяргей Кручкоў – "Беларуская мова. Інтэрнэт і кампутар", Алена Анісім – "Аб нацыянальнай тоеснасці мовы ў рэкламе і маркетынгу". (Тэксты іх выступленняў будуць надрукаваныя ў "Нашым слове") У працы сімпозіюму ўдзельнічалі таксама сябры Таварыства з розных рэгіёнаў Беларусі.

Відавочна, што ў поўнай меры ацаніць значэнне гэтага сімпозіюму можна толькі праз нейкі час, калі будуць надрукаваныя матэрыялы з дакладамі, выступленнямі ў дыскусіі, паведамленнямі. Тады магчыма будзе ахапіць увесь спектр думак, меркаванняў. Бо праблемы, якія абмяркоўваліся падчас сімпозіюму, гэта сапраўды глабальныя праблемы. Яны закранаюць жыццё, лёс, як асобных людзей, так і лёс цэлых народаў і іх культур. Нас, беларусаў, хвалюе далейшае развіццё нашай роднай беларускай мовы. Але і прадстаўнікі іншых народаў таксама заклапочаны такімі або падобнымі праблемамі. Напрыклад, у Латвіі, дзякуючы адпаведнай дзяржаўнай моўнай палітыцы, не так востра стаіць пытанне развіцця латышскай мовы. Тым не менш, на дзяржаўным узроўні прынята Праграма развіцця латышскай мовы. У Эстоніі – Стратэгія развіцця эстонскай мовы. Пра гэта расказалі Іна Друвітэ, прафесар Латвійскага універсітэта і Мал Каеватц, літаратуразнаўца, дарадчык Міністэрства культуры Эстоніі. Гэты спіс можна доўжыць.

У заключэнне гэтага кароткага паведамлення хацелася б чытачам "Нашага слова" сказаць вось што. Ад нашага жадання, ад нашых канкрэтных крокаў залежыць поспех у справе функцыянавання дзяржаўнай беларускай мовы. Як сказаў старшыня ТБМ Алег Трусаў напрыканцы сімпозіюму (і яго падтрымалі прадстаўнікі афіцыйных беларускіх колаў, навукоўцы-замежнікі), хопіць нам плакацца. Ад сябе рызыкну дадаць: нашу мову ў нас ніхто не адбярэ. Нам самім варта не хаваць яе ў закутак, ці на паліцу, каб даставаць толькі на свята. З ёй трэба быць кожны дзень, дома і на працы, ва ўсіх людных месцах. З мовай трэба кожнаму годна ісці па жыцці – і яна ніколі не загіне, "покуль будуць людзі" *(Янка Купала)!*

***Алена Анісім,***
***старшыня Менскай гарадской арганізацыіТБМ,***
***намеснік старшыні ТБМ.***

*(Працяг тэмы на ст. 2)*

# 31 ліпеня - 200 гадоў з дня нараджэння вялікага беларуса Ігната Дамейкі



На здымку: адзіны вядомы рэдакцыі бюст Ігната Дамейкі, пастаўлены на радзіме вучонага. Паводле звестак рэдакцыі Адам Мальдзіс замовіў у Лідзе яшчэ дзве скульптурныя выявы. У любой краіне свету вучонаму, імем якога ЮНЕСКА абвяшчае год стаялі б велічныя помнікі ў кожнай мясціне, дзе ён пражыў хаця б год. Але гэта не для нас.

Разам з тым у выдавецтве "Беларускі кнігазбор" рыхтуюцца да выдання "Мае падарожжы. Дзённікі выгнанніка" Ігната Дамейкі ў перакладзе Здзіслава Сіцькі.

Аналіз мовы "Дзённікаў..." Ігната Дамейкі чытайце на ст. 4.

Беларуская мова- ТБМ наша будучыня

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| 1.Незнаёмыя | - 1000 |
| 2.Беларус | - 5000 |
| 3.Новікаў У. Н. | - 1000 |
| 4.Казлоўская І. І. | - 1000 |
| 5.Глінская суполка Докшыцкі р-н | - 17000 |
| 6.Мілаш Л., Вільня | - 5000 |
| 7.Малашкова Л. Ю г. Менск | - 2000 |
| 8.Катляроў Ал-р, г. Слуцк | - 1000 |
| 9.Міхась Тычына, г.Слуцк | - 2000 |
| 10. Чэчат Алесь, г.Менск | - 5000 |
| 11.Алесь Пархоменка г. Мазыр | - 20000 |
| 12. Пятро Гуд, г. Менск | - 20000 |
| 13. Каўган Сярг., г. Менск | - 3000 |
| 14. Палсцюк В., г. Менск | - 5000 |
| 15. Яўген Міцкевіч, г.Менск | - 8000 |
| 16.Янка Шучка, Бельгія | -100 еўра |
| 17. Лаўрэн Клыбік, Бельгія | -100 еўра |
| 18. Кляшчук Сяргей, Менск | - 5000 |
| 19. Еленскі Уладзімір, Менск | - 2000 |
| 20. Крысёнак Аляксей Менск | - 1000 |
| 21. Будаўнік з Менска | - 60000 |
| 22. Ахвяраванні удзельнікаў свята ў Вязынцы | - 5500 |

Просім Вашыя ахвяраванні дасылаць на адрас: вул. Румянцава 13, г.Менск, 220005, альбо пералічваць на разліковы рахунак ТБМ № 3015212330014 у Менскай гардырэкцыі ААТ Белбізнесбанка код 764 праз любое аддзяленне ашчадбанка Беларусбанк (камісійны збор пры гэтым не бярэцца).

 







# ЗАКАНАДАЎЧЫ АСПЕКТ РАЗВІЦЦЯ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ПАДЧАС ГЛАБАЛІЗАЦЫІ

**Даклад Старшыні ТБМ Алега Трусава на пленарным паседжанні Міжнароднага сімпозіюма "Разнастайнасць моў і культур у кантэксце глабалізацыі"**

У часы глабалізацыі кожная нацыянальная ідэя, нават калі яе носьбіты маюць рознае этнічнае паходжанне, грунтуецца на адной канкрэтнай мове, найбольш прыдатнай для вызначэння яе аблічча і фармулёўкі асноўных мэтаў. Прыкладам можа быць нацыянальная амерыканская ідэя, славутая "амерыканская мара", якая грунтуецца на англійскай мове, і таму кожны грамадзянін ЗША незалежна ад паходжання і веравызнання мусіць ёй валодаць.

Другім вельмі важным складнікам нацыянальнай ідэі ёсць веравызнанне. Але ж гэты чыннік не заўсёды мае месца, пра што яскрава сведчыць вышэйпамянёны амерыканскі прыклад.

Аднак на еўрапейскім кантыненце мова і рэлігія вельмі часта вызначалі ды вызначаюць зараз асноўныя нацыянальныя памкненні вялікіх і малых народаў Еўропы, у тым ліку і нашых суседзяў. Нацыянальныя ідэі палякаў і літоўцаў непадзельна злучаны з каталіцкай царквою, украінцаў - з уніяцкай, рускіх - з праваслаўнай. Канцэпцыя латышскай нацыянальнай ідэі ў асноўным грунтуецца на маральна-этычных каштоўнасцях пратэстантызму. Таму невыпадкова адным з найбольш важных складнікаў амаль любой нацыянальнай ідэі ёсць нацыянальная царква, якая размаўляе з народам на яго роднай мове.

Нажаль, праваслаўная, а затым і каталіцкая царква ва ўмовах Беларусі не здолелі здзейсніць гэтую функцыю, нават нягледзячы на спробы Кіева і Вільні выконваць у XIV — XV стст. ролю цэнтраў усходнеславянскага праваслаўя, а кіеўскага мітрапаліта лічыць галоўным усходнеславянскім царкоўным іерархам. Мовай праваслаўнай царквы была тады царкоўнаславянская мова, якая моцна адрознівалася ад беларускіх гаворак і была не зусім зразумелая простаму чалавеку.

Каталіцызм, які пасля Крэўскай вуніі 1385 г. меў распаўсюд у заходняй Беларусі, да канца XVI - пачатку XVII стст. дайшоў да Смаленшчыны. Але мова касцёлу спярша лацінская, а затым польская зноў-такі не даходзіла да шырокіх колаў тагачаснага беларускага грамадства і моцна спрыяла працэсу апалячвання спачатку беларускіх магнатаў, а потым і шматлікай беларускай шляхты.

У другой палове XVI ст. некаторыя беларускія магнаты, сярод якіх былі і Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Тышкевічы, Глябовічы ды інш., каб замацаваць палітычную незалежнасць ад Рэчы Паспалітай і Маскоўскага княства, робяць стаўку на пратэстантызм. Менавіта пратэстанты першыя звярнуліся праз прапаведзь да беларусаў на іх роднай мове, а затым увялі беларускую мову ў лік школьных.

Узніклае пазней уніяцтва цягам XVII стагоддзя таксама не здолела стаць нацыянальнай царквой і яшчэ болей паспрыяла расколу тагачаснага беларускага грамадства, захаваўшы ў службах царкоўнаславянскую мову. Аднак у другой палове XVIII ст., калі асноўная частка сялянства і бальшыня гарадскога насельніцтва Беларусі сталі ўніятамі, роля беларускай мовы ў гэтай царкве ўзрастае, яна пачынае шырока ўжывацца ў казаннях мясцовых святароў. Гвалтоўнае знішчэнне ўніяцтва ў Беларусі расійскім царызмам у першай палове XIX ст. спыніла тэндэнцыю беларусізацыі ўніяцкай царквы, і беларусы дагэтуль не маюць сваёй нацыянальнай царквы.

У сярэдзіне XIX ст., асабліва пасля задушэння чарговага паўстання за незалежнасць, беларусы апынуліся на мяжы поўнай асіміляцыі і знікнення з карты Еўропы. Паколькі канфесійна беларусы былі падзеленыя, яднанне іх пачалося вакол уласнай гісторыі, і ў першую чаргу вакол этнаграфіі і мовы. На пачатку XX ст. пасля таго, як у Вільні пачала выходзіць "Наша ніва" і ўзніклі беларускія выдавецтвы, мова становіцца галоўным аб'ядначым момантам адраджальнай нацыі. І з гэтым вымушаныя былі лічыцца тыя палітычныя сілы, якія ў розныя перыяды XX ст. панавалі ў Беларусі.

Так, на тэрыторыі Заходняй Беларусі, якая ў 1915-1918 гг. была акупавана нямецкімі войскамі, упершыню ў XX ст. беларуская мова атрымала статус адной з афіцыйных моў, на ёй выходзілі кнігі і газеты, у 1915 г. адкрылася першая беларуская школа і, нават, вялося справаводства.

У 1918 годзе ўрад БНР абвесціў беларускую мову дзяржаўнай, і гэта пазней набыло трывалую традыцыю ў БССР. У Канстытуцыі БССР 1927 года дзяржаўнымі мовамі, акрамя беларускай, былі руская, яўрэйская (ідыш) і польская, але ў сферы школьнай адукацыі ўпершыню запанавала беларуская мова, і гэтая традыцыя, нягледзячы на рэпрэсіі 30-х гадоў, трымалася да 1941 года.

У часе другой сусветнай вайны чарговыя акупанты Беларусі таксама мусілі адрадзіць у цэнтральнай частцы краіны беларускамоўныя школы і сярэднія спецыяльныя ўстановы, дазволіць выхад беларускамоўных газет, існаванне беларускага тэатру і нават оперы.

Апошняя спроба выкарыстаць беларусізацыю ў сваіх палітычных мэтах была зроблена па даручэнні Лаўрэнція Берыі на пачатку 50-ых. Але гэтая акцыя не паспела разгарнуцца і загінула разам з яе пачынальнікам.

Але самымі жахлівымі для нашай нацыі сталіся 60-80 гады мінулага стагоддзя, бо менавіта на беларусах ставіўся чарговы бальшавіцкі эксперымент, калі кіраўнікі СССР вырашылі нас першымі сярод іншых вялікіх народаў неабсяжнай імперыі пазбавіць сваёй мовы, гісторыі ды культуры, ператварыўшы ў безаблічны, так званы "савецкі народ". Якраз з гэтай мэтай у Мінск, прыязджае Мікіта Хрушчоў, які з ганку Беларускага дзяржаўнага універсітэта заклікае беларусаў цалкам перайсці на рускую мову і такім чынам першымі сягнуць у камунізм.

Гэтая разбуральная праца вялася мясцовымі савецка-камуністычнымі органамі да канца 80-ых гадоў, пакуль не пачалася новая наменклатурная "адліга" і не паднялася чарговая хваля беларускага адраджэння, вынікам якое стала незалежнасць Беларусі, вяртанне гістарычнай памяці і старадаўняй сімволікі, аб'яўленне беларускай мовы адзінай дзяржаўнай мовай у краіне. Перапіс 1999 г., нягледзячы на так званы рэферэндум 1995 г., замацаваў станоўчыя вынікі гэтага гістарычнага працэсу, які зараз зноў пашыраецца і набывае моц.

Першая рэдакцыя Закона "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь" была прынятая ў 1990 годзе, і затым у 1998 годзе Закон быў значна зменены, што моцна выхаласціла яго змест. Тым не менш, у Законе застаюцца артыкулы, якімі можна карыстацца для абароны беларускай мовы. Гэтыя артыкулы з'яўляюцца абавязковымі для выканання. Акрамя таго, у канцы 1999 года ў Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністратыўных парушэннях быў унесены артыкул 172, які гучыць так: ***"Публічнае зняслаўленне дзяржаўных і іншых нацыянальных моў, якімі карыстаецца насельніцтва Рэспублікі Беларусь, стварэнне перашкод і абмежаванняў у карыстанні імі цягнуць накладанне штрафу на грамадзян у памеры ад 2 да 5 мінімальных заработных плат, на службовых асоб - у памеры ад 5 да 10 мінімальных заработных плат. Парушэнне артыкула 172 разглядаецца адміністратыўнымі камісіямі пры гарадскім і раённых выканаўчых камітэтах".***

Згодна Закона "Аб асновах службы ў дзяржаўным апараце "ад 23.11.1993 года асобы не маюць права займаць пасады ў дзяржаўным апараце, калі іх прафесійная падрыхтоўка не адпавядае кваліфікацыйным патрабаванням. (Артыкул 9 Закона). Паводле ж Кваліфікацыйнага даведніка пасад дзяржаўных служачых кожны дзяржаўны служачы павінен ведаць дзяржаўныя мовы Рэспуюдікі Беларусь (Параграф 6.4.1. Даведніка). Кваліфікацыйны даведнік зацверджаны пастановай №96 Дзяржкампрацы ад 21.12.1993.

Артыкул 14 Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь (дзейнічае з 01.01.2000) гаворыць, што дыскрымінацыя, гэта значыць абмежаванне ў працоўных правах ці атрыманне якіх-небудзь пераваг у залежнасці ад мовы, забараняецца.

А зараз разгледзім артыкулы Закона аб мовах, якія з'яўляюцца абавязковымі для выканання.

***Артыкул 3.*** *Грамадзянам Рэспублікі Беларусь гарантуецца права звяртацца ў дзяржаўныя органы мясцовага кіравання і самакіравання, на прадпрыемствы, ва ўстановы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні на беларускай, рускай або іншай прымальнай для бакоў мове.*

Гэта азначае, што мы маем права звяртацца ва ўсе ўстановы на беларускай мове.

***Артыкул 4.*** *Кіраўнікі, іншыя работнікі дзяржаўных органаў, органаў мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемстваў, установаў, арганізацый і грамадскіх аб'яднанняў павінны валодаць беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў.*

• Згодна гэтага артыкула службовыя асобы, перш за ўсё дзяржаўныя чыноўнікі абавязаны адказваць грамадзянам, якія да іх звяртаюцца, на беларускай мове.

*Артыкул 5. Дзяржаўныя органы, органы мясцовага кіравання і самакіравання, прадпрыемствы, установы, арганізацыі і грамадскія аб'яднанні павінны прымаць і разглядаць дакументы, якія падаюцца грамадзянамі на беларускай і рускай мовах.*

Такім чынам, дакументы на беларускай мове абавязаны прымаць без усялякіх затрымак.

Дзякуючы намаганням сяброў і прыхільнікаў ТБМ, была прынятая і з 19 сакавіка 2002 года ўступіла ў сілу новая рэдакцыя Закона "Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь", дзе надзвычай важную ролю для развіцця і захавання беларускай мовы могуць адыграць артыкулы 5 і 32 вышэйзгаданага закона. Таму мы іх прыводзім цалкам альбо ў крыху скарочанай форме (артыкул 32).

***Артыкул 5.*** *Мовы навучання і выхавання.*

*Асноўнымі мовамі навучання і выхавання ва ўстановах адукацыі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца беларуская і руская. Дзяржава гарантуе грамадзянам права выбару мовы навучання і выхавання і стварае адпаведныя ўмовы для рэалізацыі гэтага права. Навучанню беларускай мове, выданню літаратуры, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў на беларускай мове аказваецца дзяржаўная падтрымка.*

*Вывучэнне беларускай, рускай і адной з замежных моў у агульнаадукацыйных школах з'яўляецца абавязковым, за выключэннем асобных катэгорый асоб з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.*

*У адпаведнасці з заявамі законных прадстаўнікоў дзяцей і па рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў могуць стварацца групы ў дашкольных установах і класы ў агульнаадукацыйных школах, у якіх навучанне і выхаванне поўнасцю або часткова ажыццяўляецца на мове нацыянальнай супольнасці або вывучаецца мова нацыянальнай супольнасці. Па рашэнні мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, узгодненым з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, могуць ствараца дзіцячыя дашкольныя ўстановы або агульнаадукацыйныя школы, у якіх навучанне і выхаванне вядзецца на мове нацыянальнай супольнасці.*

***Артыкул 32.*** *Мэты і структура вышэйшай адукацыі.*

*Вышэйшая адукацыя заклікана забяспечыць найбольш поўнае развіццё здольнасцяў і інтэлектуальна-творчага патэнцыялу асобы, магчымасць яе актыўнага, свабоднага і канструктыўнага ўдзелу ў развіцці грамадства з мэтай задавальнення патрэб грамадства і дзяржавы ў спецыялістах высокай кваліфікацыі.*

*Сістэма вышэйшай адукацыі забяспечвае грамадзянам магчымасць навучання на адной з дзяржаўных моў Рэспублікі Беларусь шляхам стварэння ў ВНУ беларускамоўных і рускамоўных груп (патокаў).*

Звяртаем Вашу ўвагу, што зараз пісаць заявы для навучання дзяцей па-беларуску не абавязкова. бо гэта тычыцца, паводле артыкула 5, толькі законных прадстаўнікоў дзяцей іншых, небеларускіх нацыянальных супольнасцяў. Нашыя ўлады павінны адкрываць беларускамоўныя навучальныя ўстановы ўсіх узроўняў у адпаведнасці з літарай закона "Аб адукацыі" без усялякіх заяў. Калі існуюць беларускамоўныя школы, то бацькі проста запісваюць туды сваіх дзяцей, ведаючы, што яны будуць вучыцца па-беларуску ўвесь перыяд навучання ў школе.

Надзвычай важным з'яўляецца 32 артыкул, паводле якога ў кожным ВНУ Беларусі, незалежна ад формы ўласнасці, павінны існаваць беларускамоўныя студэнцкія плыні і групы. Так сталася, што менавіта ў гэтым годзе будзе самы вялікі за апошнія і наступныя гады выпуск у беларускамоўных школах краіны, паводле падлікаў кіраўніцтва ТБШ, іх колькасць будзе роўная 23276 вучняў.

У найбліжэйшы час неабходна прыняць новы "Закон аб мовах у Рэспубліцы Беларусь", які павінен адпавядаць тым дэмакратычным нормам, што ўжо даўно склаліся ў большасці еўрапейскіх краін, у тым ліку і шматмоўных, дзе афіцыйна прызнаны дзяржаўнымі некалькі моваў (напрыклад, Бельгія ці Швейцарыя). У першую чаргу, гэта сусветная дэкларацыя аб культурнай разнастайнасці ЮНЕСКА, што была прынятая 3 лістапада 2001г. на 31-й сесіі Генеральнай канферэнцыі ў Парыжы.

У адпаведнасці з новым законам, кожны дзяржаўны чыноўнік абавязан аднолькава добра ведаць дзве дзяржаўныя мовы, вольна, без памылак пісаць і размаўляць на іх.

Вельмі важна ў асобных артыкулах Закона дакладна вызначыць механізм узаемадачыненняў паміж беларускай, рускай і англійскай мовамі, вызначыць межы і аб'ёмы выкарыстання і вывучэння моваў нашых суседзяў (польская, украінская, літоўская і латышская мовы). Асобны артыкул Закона можа разгледзець сітуацыю з мовай "ідзіш" як складовую частку шматэтнічнай культурнай спадчыны нашай краіны.

Новы Закон аб мовах несумненна стане важным крокам па вяртанні Беларусі ў дэмакратычную аб'яднаную Еўропу.

 





# ДА СВЯТЫНЯЎ СЭРЦАМ-ДУШОЙ ДАКРАНУЦЦА...

Нярэдка кажуць, што дзетак нашых не хвалюе усё тое, што робіцца вакол нас, якія нашы каштоўнасці і святыні, наша гісторыя. Але глыбей прыглядзеўшыся, на паверку гэта не так. Добрым прыкладам таму - вынікі праведзенага Рэспубліканскага конкурсу экалагічнай журналістыкі сярод школьнікаў, пра які распавядалася на старонках "Народнай волі". А цяпер вось у Горадні моладзевым цэнтрам культуры імя К.Каліноўскага гарадской грамадскай арганізацыі ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сілаў (рэгістрацыйны № 040101) быў праведзены конкурс сачыненняў школьнікаў пад назвам: "Іх імёны не знікнуць у акіяне вечнасці". Дзецям было прапанавана расказаць пра Ефрасінню Полацкую, вялікага асветніка і сейбіта гуманізму Францішка Скарыну, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча і іншыя слынныя постаці нашай гісторыі і сучаснасці, былі і вольныя тэмы, а таксама вершы.

Ну, пра ўсё гэта распавесці падрабязна не хапіла б ні часу, ні газетных старонак. Але ж засяродзіцца на найбольш адметных і яркіх момантах дзіцячых думак, меркаванняў, поглядаў, безумоўна, варта. І перш тут прыемна ўражвае тое, што нашы дзеткі сапраўды неабыякавыя да святыняў свайго шматпакутнага краю. І тут не так важна, хто і якое месца заняў, а каштоўна тое, што кожны юны ўдзельнік конкурсу шчыры і праўдзівы ў адлюстраванні той ці іншай яркай пастаці ў гісторыі сваёй Бацькаўшчыны, імкнецца прапусціць усё гэта праз уласнае сэрца... Я не магу ўстрымацца, каб у падцверджанне сказанага не прывесці тут думкі з сачынення пра Максіма Багдановіча вучня 6-га "в" класа Гарадзенскай школы № 26: *"Заслуга Максіма Багдановіча перад беларускім народам немалая, хоць пражыў ён усяго 27 гадоў. Але за сваё кароткае жыццё навучыў беларусаў па-сапраўднаму любіць сваю Радзіму... Толькі сапраўдны патрыёт мог напісаць такія вершы аб Радзіме, як "Народ, беларускі народ!", "Пагоня". Я думаю, калі б гэтыя творы ведаў кожны беларус, то мы больш шанавалі б сваю мову і сваё мінулае. І мяне яны шмат чаму навучылі, я цяпер па-іншаму ацэньваю становішча роднай мовы."*

І на заканчэнне хлопчык робіць такую лагічную вельмі сучасную выснову: *"У цяжкія моманты жыцця народ заўсёды звяртаецца ў думках да сваіх легендарных герояў. Часта іх жыццёвы прыклад дае падказку, што рабіць, як жыць далей.*

*Я думаў, што яшчэ многіх беларусаў будзе натхняць прыклад Максіма Багдановіча..."*. І не толькі будзе натхняць, а ўжо натхняе. Інакш, не нарадзіліся б у вучаніцы школы-гімназіі № 30 Горадні Марыі Пруднікавай такія вершаваныя радкі:

*Шчырасць Максіма*
*ўзышла ў нашых душах,*
*Згадкі пра шчасце высока ўзняла,*
*Каб ацаляць нас духоўна нядужых,*
*Шчырасць Максіма ўзышла.*

Пэўна няма сёння таго школьніка, які не ведаў бы імя Кастуся Каліноўскага. І таму не выпадкова маладзёвым цэнтрам, што носіць яго імя, у складзе ветэранскай арганізацыі была прапанавана тэма сачынення "Кастусь Каліноўскі – сапраўдны рыцар і герой". Яе ахвотна бралі не толькі хлопчыкі, але і дзяўчынкі. Вось што, напрыклад, піша пра мужнага важака беларускіх паўстанцаў вучаніца 11-га "б" класа сярэдняй школы № 24 Горадні Марына Кірылава:

*"Кастусь Каліноўскі быў спраўдным сынам сваёй Радзімы і Чалавекам. Ён з дзяцінства хварэў невылечнай хваробаю – любоўю да той краіны, у якой успыхнуў агеньчык яго жыцця. Шчаслівую і велічную зямлю любіць невялікая справа. Паспрабуйце ж зрабіць гэта, калі яна слабая, малая, прыніжаная!*

*Праўда для Кастуся Каліноўскага была вышэй за рызыку працы ў падпольнай друкарні. Ведаў ён, што чым шырэй глядзіць у свет народ, тым мацнейшая яго ненавісць да царскага ўрада, да свайго становішча, да безгалосай долі сваёй".*

Як ужо было падкрэслена ў пачатку артыкула, конкурс праводзіўся ў дзвюх намінацыях: на разгляд журы былі прадстаўлены, як сачыненні, так і вершы, якія таксама атрымалі пэўныя месцы. Першае з іх было прысуджана вучаніцы Гарадзенскай школы-гімназіі № 30 Ірыне Мар'янскай за санет "Дух ісціны". Але справа, зноў жа, падкрэсліваю, не ў месцах, а ў значнасці і глыбіні думкі і яе паэтычнасці, безумоўна... Не ставячы тут нейкіх проб, скажу, што твор гэты прысвечаны нашаму славутаму земляку Яўхіму Карскаму. Ён невялічкі, і таму я прывяду яго цалкам:

*Сярод імён вялікіх моваведаў*
*Тваё імя ярчэй за ўсё зіхціць,*
*Каб нам, нашчадкам, як маяк, свяціць,*
*Каб кожны з нас асновы свае ведаў.*
*Сябры твае – "азы", "глаголі", "юсы"...*
*Стараславянскай мовы карыфей,*
*Ты родную апеў, нібы Арфей,*
*У трох тамах пад назвай "Беларусы".*
*І дум тваіх грунтоўных кветкі-краскі*
*Ў сэрцах нашых змогуць паслужыць,*
*Прыўносячы дух ісціны змагарскі.*
*Нам шлях у дваццаць першы век ляжыць*
*З табой, Яўхімій Фёдаравіч Карскі!*

Каб не было аднастайнасці аповеду, зноў перайду да конкурсных сачыненняў. Сярод іх найбольш удалым было прызнана сачыненне вучаніцы 11 "б" класа школы № 27 Вольгі Забалотневай "Подзвіг Ефрасінні Палацкай". Як адзначыла журы, гэта арыгінальная творчая праца, зарыентаваная на цікавы гістарычны матэрыял, дзе па-свойму падаецца некалькі версій тых далёкіх падзей і завяршаецца расповед зноў жа паэтычным творам, знітаваным адным агульным зместам з самім сачыненнем.

*"Полацкая зямля,* - піша Вольга Забалотнева, - *ўзгадавала такую велічную асобу як Ефрасіння. Яна стала нябеснаю заступніцай не толькі Полацка, але і ўсёй беларускай зямлі... Сваё жыццё яна прысвяціла Богу і людзям. І людзям не толькі таго часу. Але і нам. Нездарма ж, вось ужо колькі стагоддзяў не згасае ў сэрцах людзей памяць пра вялікую асветніцу".*

*"Ефрасіння Полацкая,* - працягвае свой аповед аўтарка, - *адкрывае нам шэраг постацяў, якія ўпрыгожваюць нашу гісторыю, даюць узор шчырай, бескарыснай любові да Айчыны, да ведаў, да чалавека. Такія людзі заўсёды застаюцца сучаснымі, бо яны вырашалі не момантавыя патрэбы, а клапаціліся пра выхаванне душы і духоўнасці.*

*Прымі ад усяго сэрца шчырыя словы маёй душы, святая Ефрасіння, аборонца маёй Беларусі:*

*Слова тваё птушкай ляціць*
*З келіі, воблачкам дыму,*
*Мэта твая – лёсам сваім,*
*Радасцю, болем – з Радзімай.*
*Шчасцем, пяшчотай дзявочай,*
*Сэрцам чуллівым прарочым,*
*Кожным слядком палачанкі,*
*Божаму слову адданай.*
*Дай жа табе сілы веры,*
*Божа – Уладар Сусвету*
*Роднай Зямлі вечна служыць*
*Сёння, Учора, Вечнасць."*

Яшчэ заслугоўваюць увагі і пахвалы сачыненні пра Ефрасінню Полацкую, а таксама сучасных герояў і пакутнікаў Беларусі вучаніцы 10-га "б" класа сярэдняй школы № 24 Кацярыны Якубчык і Вікторыі Белазёравай, вершы вучаніц школы-гімназіі № 30 Ірыны Макар, Ірыны Кот, Вольгі Грыцэвіч, а таксама вучаніцы школы № 3 Вольгі Чычкан, радкамі з верша якой аб Радзіме я і закончу аповед пра конкурс у Горадні:

*Жыву тваім шчасцем і клопатам,*
*І ласкай тваёю, зямля.*
*Тут бусел вітае нас клёкатам,*
*Тут дыхае хлебам ралля.*
*Ты песня мая несціханая,*
*Ты промень, працяўшы імжу!*
*Табою, Айчына каханая,*
*І цешуся і даражу.*

***Аляксей Дземідовіч.***

*Да юбілею Алы Ходан*

Шаноўная Ала Міхайлаўна!

Шчыра віншуем Вас, кіраўніка клуба "Беларуская хатка" з слаўным юбілеем. Цягам апошніх 15-ці гадоў Вы адкрываеце для зацікаўленых духоўныя скарбы беларускага народа.

Дзякуючы Вашай няўрымслівай натуры мы атрымалі магчымасць пазнаёміцца з выбітнымі постацямі гісторыі і культуры Беларусі падчас шматлікіх вандровак па краіне і цікавых вечарынаў. Жадаем Вам мужнасці і нязломнай веры ў перамогу беларускай справы.

Хай беражэ Вас Бог, і саграваe Вашае сэрца любоў нашай дружнай беларускай сябрыны.

**Сябры клуба "Беларуская хатка".**

Рэдакцыя газеты "Наша слова" далучаецца да віншавання сяброў і жадае Вам поспехаў у працы на ніве адраджэння і пашырэння Беларушчыны.



**На здымку: кіраўнік "Беларускай хаткі" са Стэфаніяй Станютай**

# "Трэба выхоўваць у сабе пачуццё чалавечай годнасці"

Амаль чатыры гады таму ў віцебскім касцёле святой Барбары адбылася прыміцыйная (першая) Імша ўраджэнца Сянно выпускніка філасофска-тэалагічнага факультэта Кракаўскага калегіюма айцоў дамініканаў ксяндза Міхала Ермашкевіча. За гэты час а. Міхал паспеў папрацаваць у Баранавічах і вось ужо трэці год з'яўляецца пробашчам парафіі святой Барбары ў Віцебску – горадзе, дзе рабіў першыя крокі на шляху да святарства. Словы ў загалоўку – з яго інтэрвію "Боскія дабро, прыгажосць і любоў непадуладныя часу" (Ave Maria, 2002, № 3), якое непасрэдна датычыць моўнай сітуацыі на Беларусі і ролі касцёла ў фармаванні паважлівага стаўлення да роднага слова.

Сам ксёндз Міхал вядзе службу па-беларуску.

***Франц Сіўко.***






**Да 120-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы "Белпошта" выпусціла мастацкі маркаваны канверт. Карыстайцеся, калі ласка.**

